АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

15 – 21 МАЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№20 (160)

**ПАДПІСКА - 98**

## Што чытае Шурык?




**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**
на месяц - 12 тыс.руб.; 3 месяцы - 36 тыс.руб.; 6 месяцаў - 72 тыс.руб.

**ВІЛЕЙКА**

## Візіт прэм'ера

У сераду Старшыня Саўміна **Сяргей Лінг** быў у Вілейцы. Надзвычай складаная сітуацыя з загрузкай вытворчых магутнасцяў, плошчаў аднаго з буйнейшых прадпрыемстваў рэгіёна, якое сёння стала асноўным пастаўшчыком беспрацоўных у горадзе стала прычынай наведвання кіраўніком ураду завода "Зеніт". Пабываў Сяргей Лінг і на новай гідраэлектрастанцыі на Вілейскім вадасховішчы.

*Аддзел інфармацыі.*

**СМАРГОНЬ**

## Гараць лясы, збіраецца камісія

Цёплае, сонечнае надвор'е дало пра сябе знаць лесаводам. Толькі за апошнія дні адбылося шэсць узгаранняў у лясных масівах. Агнём пашкоджана 35 сотак лесу.

На днях збіралася райвыканкомаўская камісія па надзвычайных сітуацыях. Пад старшынствам Іосіфа Велькашынскага яна зрабіла аналіз здарэнняў, прыняла рашэнне аб правядзенні мерапрыемстваў па ахове лесу ад пажараў.

*Тарэса КУМІШЧА.*

**АСТРАВЕЦ**

## То белы я, то бронзавы

У мінулым нумары "РГ" паведамляла, што ў райцэнтры помнік Леніну пафарбавалі ў белы колер. Як аказалася, ненадоўга.

Днямі правадыра бальшавіцкага зноў перафарбавалі. На гэты раз у бронзавы колер. Нібы той загарэў пад майскім сонейкам.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

**ВІЛЕЙКА**

## Што за лічбамі?

Ад пачатку года завод "Зеніт" паказвае неблагія вынікі. Аб'ём прадукцыі на прадпрыемстве ўзрос на 25% у параўнанні з леташнім аналагічным перыядам.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

**СМАРГОНЬ**

## Школу памянялі на выканком

Замест заняткаў у школах горада вучні, якія сёлета заканчваюць 9 і 11 класы, гэтымі днямі прыходзілі ў актавую залу райвыканкома.

Тут прайшла сустрэча, на якой, акрамя юнакоў і дзяўчат, прысутнічалі прадстаўнікі амаль дзесятка прафтэхвучылішчаў нашага рэгіёна. Яны распавядалі пра прафесіі, умовы вучобы, іншае. Найбольш удалымі агітатарамі аказаліся прадстаўнікі з Вілейскага ПТВ-200 і Ашмянскага ПТВ-192, бо дахаты вярталіся з вялікімі стосамі заяў.

Неўзабаве ў Смаргонь прыедуць прадстаўнікі інстытутаў і тэхнікумаў. Мэта іх візіту такая ж - прафарыентацыя.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

**ВІЛЕЙКА**

## Прыпынак у Еўропу

Твар горада ўпрыгожыў крыты аўтобусны прыпынак на пл. Леніна. Зроблены з зацемненага шклапластыка - еўрапейскага ўзроўню. Будзем чакаць, калі такія прыпынкі з'явяцца каля "Зеніта", 9 магазіна, на пл. Свабоды.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

**АСТРАВЕЦ**

## У памяць аб родных

Для многіх з астраўчан паставіць помнік на магілку блізкіх - справа цяжкавырашальная.

Дапамагчы вырашыць гэтую праблему ўзяўся камбінат бытавога абслугоўвання. Тут на мінулым тыдні пачалі вырабляць помнікі, цана на якія, па папярэдніх падліках, будзе намнога ніжэйшая, чым у канкурэнтаў.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Абараніць сваё дзіця вы зможаце не заўсёды

# Правы чалавека - не абстракцыя

***На публікацыю "Таня была без дакументаў. І гэта ледзь не каштавала ёй жыцця" ("РГ" №17) урэшце адгукнуўся аўтапарк №4. Вось некаторыя вытрымкі з ліста за подпісам дырэктара прадпрыемства Пятра Мамчыца.***

***"... Работнікі кантрольна-рэвізійнай службы дзейнічалі ў адпаведнасці з інструкцыяй, нормаў заканадаўства не парушалі. Прыцягнуць іх да дысцыплінарнай адказнасці няма падстаў. Можна казаць пра нормы маралі, аднак у нашай дзяржаве вяршэнствуюць пакуль нормы Закона... Што тычыцца Т. Семашкевіч, то яна мае права звярнуцца ў вышэйстаячы орган ці суд".***

Будзем лічыць, што кантралёры закон не парушалі (у аўтапарку асабліва падкрэсліваюць тое, што ксеракопія не дае права на бясплатны праезд). Інфармацыя не ставіла на мэце вызначыць вінаватых. Гаворка ідзе якраз аб маральнай адказнасці. Відавочна, што людзі ў форме мусілі пасля высвятлення асобы дзяўчынкі скласці пратакол і адпусціць яе.

Кантралёры - людзі з моцнымі нервамі (без гэтага не абысціся), але ім бы ніяк крыху элементарнай культуры. Ці проста чалавечнасці. Баналына, але на месцы Тані маглі аказацца і іхнія дзеці. Няўжо можна "качаць правы", калі на вачах сіпелае дзяўчо ў чаканні прыступу хваробы? Калі была вострая неабходнасць аштрафаваць школьніцу, то няўжо назаўтра такая магчымасць знікла б?

З ліста аўтапарка: "Давайце паважаць людзей, якія робяць усё неабходнае для таго, каб у салонах аўтобусаў існавалі ўстаноўлены парадак".

Давайце. І давайце помніць, што ва ўсім цывілізаваным свеце правы грамадзяніна (пасажыра, у нашым выпадку) стаяць вышэй за абавязкі службовай асобы (кантралёра).

А работу міліцыі нашы пастаянныя чытачы ў адным з наступных нумароў змогуць параўнаць з дзеяннямі амерыканскіх паліцэйскіх, з якімі работнік "РГ" меў магчымасць удзельнічаць у патруляванні вялікага горада, на практыцы пазнаёміўся з варыянтамі затрымання амерыканскіх грамадзян, з некаторымі правамі і абавязкамі абодвух бакоў.

*Аддзел інфармацыі.*

**АФІЦЫЙНА**

## У інтарэсах абедзвюх дзяржаў

КІЕЎ. Пытанне паскарэння ратыфікацыі Беларуссю украінска-беларускага дагавора аб дзяржаўнай мяжы абмеркаваў пасол Украіны ў РБ Анатоль Дронь падчас сустрэчы з кіраўніком адміністрацыі прэзідэнта Беларусі М. Мясніковічам. У паведамленні са спасылкай на ўпраўленне інфармацыі МЗС Украіны, украінскім бокам выказана меркаванне, што ўступленне дагавора ў сілу будзе адказваць інтарэсам абедзвюх дзяржаў і атмасферы ўзаемаразумення ў Еўропе.

*БелаПАН — УНІАН.*

**СУМНАЕ**

## Самастрэл кантрактніка




*МАЛАДЗЕЧНА. У вайсковай часці (інжынерная база), што стаіць у вёсцы Краснае, застрэліўся салдат-кантрактнік. Уся інфармацыя вакол здарэння строга ахоўваецца.*

Але, як стала вядома, 21-гадовы **П. К.** - маладзечанец, адслужыў тэрміновую. Па кантракце быў на сяржанцкай пасадзе. Лічыўся самым адказным і старанным. Нават на свае асабістыя грошы купіў форму - так хацелася хутчэй служыць.

Салдаты-кантрактнікі звычайна знаходзяцца на сяржанцкіх пасадах. У іх вольны выхад за тэрыторыю часці. Таму нейкая гаворка пра нестатутныя адносіны не ідзе. Чуткі пра забойства ніякага пацверджання не знаходзяць. Хутчэй за ўсё прычына драмы - у прыватным жыцці вайскоўца.

Цяпер часць "трасуць" правяраючыя камісіі.

*Васіль САВІЦКІ.*

**СВЯТЫ**

## Традыцыйным маршрутам

***МАЛАДЗЕЧНА. Па традыцыйным маршруце з Цэнтральнай плошчы горада з прыпынкамі для ўскладання кветак ля мемарыяла Перамогі ў парку і помніка Фёдару Маркаву да брацкай магілы загінуўшых на нашай зямлі савецкіх воінаў прайшла калона ўдзельнікаў святкавання 53-годдзя дня Перамогі над гітлераўскай Германіяй.***

Шэсце пад дзяржаўнымі сцягамі, партрэтамі А. Лукашэнкі, а таксама сцягамі Перамогі і КПСС узначалілі ветэраны вайны і кіраўніцтва гарадскіх і раённых уладных структур. Затым адбыўся мітынг, урачыстая хвіліна маўчання і салют у гонар свята.

*Алесь КАНЧАНСКІ.*

## У каталікоў - маёвае

АСТРАВЕЦ. Практычна ва ўсіх вёсках пры ўездзе і выездзе стаяць крыжы. У майскія дні людзі прыбіраюць ля іх, фарбуюць, ставяць абразы. Вечарамі вяскоўцы збіраюцца тут. Увесь май у каталікоў будзе ісці маёвае. Людзі моляцца да Маці Божай, каб у іх сем'ях панавалі мір і згода, вырас добры ўраджай, гадаваліся дзеці.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

**ФОТАМАДЭЛЬ РЭГІЁНА**



Маладзечна. **Вераніка.** Рост 167 см, вага 54 кг. Вучуся ў СШ №2. Люблю добры адпачынак на прыродзе і абавязкова з роднымі, блізкімі і знаёмымі. Слухаю сучасную музыку.

ФОТА АЛЯКСЕЯ ФАЦІСАВА

СТАРЫ АЛЬБОМ




Смаргонь перад І Сусветнай вайной. Вуліца Мінская. Гэта была галоўная вуліца Смаргоні таго часу. Па ёй жа праходзіў і тракт Мінск - Вільня. На Мінскай жылі, у асноўным, яўрэі. Тут жа былі іх магазіны, невялічкія лаўкі, розныя майстэрні і прадпрыемствы. Сярод іх вінакурны завод Ротштэйна, тытунёвая фабрыка, цукерачная фабрыка Данюшэўскага, мылаварня, самы вялікі скураны завод Саладухі, які вырабляў 500 скур у тыдзень. Сёння згаданае на фотаздымку месца - таксама цэнтр горада. Гэта адрэзак вуліц Савецкай-Леніна ў межах сярэдняй школы №1-касцёл.

*Н. МАРКАВА, галоўны захавальнік фондаў Смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея.*

ФОТА З ФОНДАЎ СМАРГОНСКАГА ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ.

КУЛЬТУРА

## "Мы пераможам сілай духу!"

Працягваецца творчы конкурс імя публіцыста **А. Майсені**. Днямі ІІ прэміяй узнагароджаны **Васіль Гроднікаў**.

Маладзечаншчына заўсёды славілася сваімі выдатнымі інтэлігентамі-вяскоўцамі. Не выключэнне і эсеіст Гроднікаў з Мазалёў. Яго пяру належаць аповяды-псіхалагічныя даследаванні "Час вялікай смагі", "Менталітэт электарату, або Чаму браткі-беларусы такія згуртаваныя?", іншыя.

Віншуем земляка! І чакаем новых твораў.

*Мікола ЛІННІК.*

## "Мінімум ілжы"

МІНСК. Так называецца экспазіцыя жывапісных работ віцебскага мастака **Уладзіміра Акулава**, прадстаўленая ў Траецкім прадмесці Мінска. Гэта ўжо трэцяя персанальная выстава майстра, арганізаваная цэнтрам "Жыльбел". Трыццаць жывапісных твораў 44-гадовага мастака дазваляюць уявіць натуру чалавека, які востра перажывае ад таго, што бачыць побач недасканаласць.

*Вера КРОЗ, БелаПАН.*

АШМЯНЫ

## "Ашмянскія зорачкі"

Конкурс дзіцячага (ад 5 да 18 гадоў) эстраднага мастацтва пад такой назвай наладзілі супрацоўнікі аддзелаў культуры і адукацыі.

У рамках фестывалю "Беларусь - мая песня" скончыўся агляд канцэртных праграм устаноў культуры раёна.

Дню Перамогі быў прысвечаны мітынг-рэквіем "Гэта наш боль - гэта наша памяць". Святкаванне, што адбывалася ў гарадскім парку, прадоўжыў канцэрт "Песня далёкая і блізкая".

СМАРГОНЬ

## У імя сям'і

Дыялог-сустрэча "Осените друг друга любовью" у аматарскім аб'яднанні "Гармонія" прысвечаны сёння Міжнароднаму дню сям'і. На размову аб праблемах сям'і, узаемаадносінах у ёй, выхаванні дзяцей запрошаны псіхолаг, урач, ксёндз.

На нядзелю запланаванае свята кнігі ў Прамысловым мікрараёне горада. Праграму свята складзе тэатралізаванае прадстаўленне, сустрэча з мясцовымі паэтамі, літаратурныя гульні, віктарыны, канцэрт мастацкай самадзейнасці, дзе возьмуць удзел калектывы і выканаўцы ўстаноў культуры і СШ №6.

ВАЛОЖЫН

## 60-гадовыя воіны

Святочны канцэрт і "агеньчык" падрыхтавалі супрацоўнікі РДК да 60-годдзя мясцовай воінскай часці.

Тэматычныя вечары, вечары-партрэты, святы маладой сям'і, ушанаванні юбіляраў праводзяць установы культуры раёна да Міжнароднага дня сям'і.

Гасцямі жыхароў Валожыншчыны 16 мая стануць калектывы мастацкай самадзейнасці Маладзечанскага раёна з нагоды правядзення "дзён культуры ў суседнім раёне". Праз тыдзень - канцэрты ў адказ.

МЯДЗЕЛ

## Раён у галерыі

Тыдзень традыцыйнага мастацтва "Не змоўкне творцы песня" выявіў стан, напрамкі, праблемы ў развіцці дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, народных рамёстваў. Па яго выніках народны клуб самадзейных майстроў Крывіцкага ДК (кіраўнік **Раман Шаша**) будзе прадстаўляць раён у мастацкай галерэі абласнога навукова-метадычнага цэнтра.

МАЛАДЗЕЧНА

## Віншуем пераможцаў

На рэспубліканскім фестывалі мастацкай творчасці "Студэнцкая вясна-98" у Віцебску (6-10 мая) гран-пры атрымалі аркестр рускіх народных інструментаў (кіраўнік **Тамара Бялькова**), 14 мая ён даваў канцэрт у вялікай зале музвучылішча, і піяніст **Аляксандр Дзяруга**, студэнт музвучылішча. Сімфанічны аркестр (дырэктар **Рыгор Сарока**) атрымаў званне лаўрэата.

Канцэртныя праграмы ад Мінскай вобласці на фестывалі вёў **Юрый Круглік** (тэатр песні "Землякі" Вілейскага ГДК, кіраўніка якога **Валерыя Скаражонка** запрасілі на фестываль як госця, удзельніка і старшыню журы конкурсу эстраднай песні).

ВІЛЕЙКА

## Творчы экзамен у "Экспромта"

Канцэрт-марафон узорнага эстраднага калектыву "Экспромт" (кіраўнікі **Алег і Нэла Зайцавы**) стане сур'ёзным экзаменам у творчым жыцці калектыву, які днямі чакаецца ў ГДК.

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# Прафесар той, хто грошы атрымлівае, а не сусветныя веды -

## пераканаsuccessfully Рыгор Капцюг, якому праз некалькі месяцаў спаўняецца 100.

*МАЛАДЗЕЧНА. Дзед Рыгор чытае ў акулярах. Ведае сучасныя палітычныя тэрміны (тлумачыў мне сутнасць "хартыі"), палітычных дзеячаў. Скардзіцца на родных, што не хочуць абмяркоўваць з ім сусветныя праблемы. Капцюг - адзіны мужчына ў горадзе, які нарадзіўся ў мінулым стагоддзі.*

Ён карэнны жыхар: нарадзіўся ў вёсцы Баяры, хрысціўся ў Плябані, жонку ўзяў з Насілава. А з гадавалага ўзросту жыў у Вялікім Сяле, якое нядаўна ўвайшло ў склад Маладзечна.

Нейкага сакрэту доўгажыхарства Рыгор Антонавіч не ведае. Харчаваўся, як усе. За Польшчай пяклі свой хлеб, калолі свіней, трымалі дзве каровы. У магазін хадзілі па соль, цукар, запалкі. Імкнуліся апранацца па модзе. Мужчыны шылі камізэлькі, строі-тройкі, на святы чаплялі гальштукі. Звярталіся адзін да аднаго, дарэчы, - пан. Гарэлку доўгажыхар не піў. Але памятае, што на той час самай лепшай лічыўся савецкі "Каласок". Кантрабандны тавар каштаваў дорага - два злотыя за бутэльку.

Маладым Капцюг паехаў на заробкі ў Францыю. Да таго нейкі час лячыў вочы (праціраў малаком), каб прайсці медкамісію. Там на заводзе атрымліваў 36 франкаў у месяц (1 франк быў роўны 2,80 злотых), бясплатна харчаваўся і адпачываў у кафэ за кавай. У абедзвюх Сусветных войнах ён не ўдзельнічаў. Некалі працаваў на лесапільні і зімой застудзіў грудзі, атрымаў белы білет. У 20-х актыўна ўдзельнічаў у "Грамадзе". Падчас Другой Сусветнай дапамагаў бежанцам, пакуль партызаны не звялі з двара кароўку з цялём. З немцамі не супрацоўнічаў, ГУЛАГа пазбегнуў. Капцюг памятае, як сусед у сэрцах выказаўся наконт Сталіна:

- Што раней з'явілася - курыца, ці яйка? Хто каму раіць будзе?

Праз гадзіну быў ужо арыштаваны.

Капцюг ажаніўся ў 36. Ягоная Варвара была маладзейшая на 11 гадоў. За ёй далі дзве дзесяціны зямлі. Успамінае, як паехаў да бацюшкі дамаўляцца. Той за вянчанне запрасіў 25 злотых. А сам малады разлічваў на 15, ад сілы 20. Выратаваў тады грыбок, які з'еў хату заможнага паніча, і апошні зрабіў буйны заказ на цэглу (з асабістай цагельні Капцюгоў).

Самая гучная плётка была ў сярэдзіне 30-х. Маўляў, Сталін у Рыгу накіраваў 3 вагоны з золатам, каб немцы Прыбалтыку не чапалі. З год яе абмяркоўвалі па дварах.

Пасля вайны Рыгор Антонавіч працаваў у лясніцтве вартаўніком. За што і атрымаў пенсію - 17 руб. 69 капеек.

У кожнага свая гісторыя жыцця, - гаворыць доўгажыхар, - у мяне лёс ні добры; ні благі. Роднымі, дзяржавай дагледжаны. Калісьці сябры мяне называлі прафесарам - шмат чытаў, на ўсё меў адказ. Але лічу, што прафесар той, хто грошы атрымлівае, а не сусветныя веды. А ў мяне грошай заўсёды было ў абрэз.

*Васіль САВІЦКІ.*

# Грошы не пахнуць. Але могуць выклікаць алергічныя рэакцыі

*1 студзеня 1999 года ў 11 еўрапейскіх краінах уводзіцца новая грашовая адзінка - "еўра". Спецыялісты ўжо разлічылі, што на чаканку новых манет пойдзе 300 тысяч тон металу. Аднак нямногім вядома, што ў сплаве, з якога плануецца выпрацоўваць гэтыя манеты, вялікае ўтрыманне нікелю - металу, які выклікае алергічныя рэакцыі. Чакаецца, што пастаянна карыстацца новай валютай будуць 340 мільёнаў чалавек. Улічваючы, што на алергію церпяць каля дзесяці працэнтаў насельніцтва Еўропы, відавочная выснова: "еўра" можа прыкметна ўскладніць нашае жыццё. А па сцвярджэннях медыкаў, колькасць хворых на алергію і бранхіяльную астму павялічваецца ў свеце прыкладна на 5 працэнтаў у год.*

Праўда, у якасці наяўных грошай "еўра" увойдзе толькі з 2002 года. Было б цудоўна, калі б гэтыя тры з лішкам гады спецыялісты выкарыстоўвалі для таго, каб замяніць нікель якімсьці іншым металам, які не выклікае алергічных рэакцый.

Хаця, і без "еўра" у нашым паўсядзённым жыцці хапае алергенаў. Пыльца квітнеючых дрэваў і лугавых траў, воўна жывёлы, харчовыя алергены... Нарэшце, той самы нікель, які дастаткова часта сустракаецца ў сплавах, выкарыстоўваецца для вырабу кольцаў і завушніц. Найпершая парада людзям, якія схільныя да алергічных захворванняў, - па-магчымасці пазбягаць кантактаў з алергенамі. Праўда, следаваць ёй вельмі складана: не будзеш жа сядзець зачыненым ад зімы да зімы. І тут на дапамогу прыходзяць антыгістамінныя прэпараты.

Галоўны спецыяліст па алергалогіі Міністэрства аховы здароўя Беларусі **Мікалай Скельян** рэкамендуе кларыцін - максімальна бяспечны і эфектыўны лекавы сродак. Кларыцін практычна не мае пабочных эфектаў, не выклікае санлівасці, слабасці мышцаў або парушэнняў зроку. Адна таблетка пазбавіць вас ад алергічных рэакцый на цэлыя суткі, пачаўшы дзейнічаць ужо праз 30 мінут. Для пакупкі кларыцына ў аптэках не патрабуецца рэцэпт, ён дазволены нават дзецям з двухгадовага ўзросту і спецыяльна выпускаецца ў выглядзе салодкага фруктовага сіропу. Пры гэтым для набыцця кларыцыну ўвогуле не трэба чакаць з'яўлення еўра - у беларускіх аптэках яго можна купіць за беларускія рублі.

*Уладзімір ШЧАСНЫ.*

МЫ І ДЗЯРЖАВА

# Кампенсацыя на паперы

***Як вядома, з 1991 года пачаўся абвальны рост цэнаў. Уклады грамадзянаў імкліва абясцэніліся. А нядаўна з'явіўся Указ прэзідэнта "Аб кампенсацыі абясцэнення ўкладаў і аблігацый мэтавай беспрацэнтнай пазыкі 1990 года на набыццё тавараў працяглага карыстання". Ім прадугледжана, што ўкладчыкі і ўладальнікі аблігацый, якія іх мелі ў перыяд з 1.01. 92 па 1.01. 95, атрымаюць кампенсацыю, разлічаную з улікам росту да 1.01.96 індэкса спажывецкіх цэнаў. Ці вялікія грошы атрымаюцца пасля налічэння кампенсацыі?***

Паспрабуем вылічыць прыкладную суму, зыходзячы з 1 тысячы рублёў СССР. Вось што атрымліваецца: 6101094 (індэкс росту спажывецкіх цэнаў снежня 1995 г. да снежня 1990 г.) дзелім на 640 (індэкс росту спажывецкіх цэнаў студзеня 1992 г. да снежня 1990 г.) і атрымліваем 9532. Потым 1 тыс. руб. СССР памнажаем на атрыманую лічбу. У выніку бачым, што ранейшая тысяча стала 9 млн. 532 тыс. рублёў. На гэтую суму будуць налічаныя з 1.01.96 працэнты як па ўкладзе да запатрабавання. Гэта яшчэ максімум 1 млн. 800 тыс. руб. Таму на 1 студзеня 1998 г. мяркуемая сума будзе не больш за 11 млн. 300 тыс. руб. Але ад яе трэба будзе адняць суму раней праведзенай кампенсацыі. Методыка яе заліку пакуль не распрацаваная.

На суму кампенсацыі будуць выдавацца сертыфікаты аблігацый. Затым абяцаецца іх выкуп (пагашэнне) у перыяд з 1998 па 2007 год. Кампенсацыйная выплата залічыцца на спецыяльны кампенсацыйны рахунак. З яго грошы дазволена выкарыстаць толькі для безнаяўных плацяжоў за прадукцыю, работы і паслугі, пагашэнне крэдытаў, што прадастаўляюцца на будаўніцтва, рэканструкцыю і куплю жылля.

Заўважу, што слова "тавары" (тэлевізары, халадзільнікі і г. д.) у пераліку адсутнічае. Таму карыстанне "папяровымі" грашыма будзе абмежаваным. З пералічаных накірункаў выкарыстання кампенсацыйных сум пенсіянераў могуць зацікавіць, бадай, толькі паслугі пахавальных бюро.

Указам устаноўлена, што да 2000 года будуць пагашаныя аблігацыі толькі тых грамадзянаў, якія дасягнулі пенсійнага ўзросту (мужчыны - 60, жанчыны - 55 год) на дзень уступлення ў сілу Указа, бацькоў і не ўступіўшых у новы шлюб жонак вайскоўцаў, смерць якіх звязана з выкананнем абавязкаў службы, а таксама тых, чыё жыццё звязана з блакадным Ленінградам.

Трэба ўлічваць, што, калі сёлета інфляцыя захаваецца на ўзроўні мінулагодніх 60%, то да студзеня 1999 г. пакупніцкая здольнасць кампенсацыйнай сумы знізіцца дзесьці напалову. Што застанецца ад гэтай сумы тым, каму пашчасціць атрымаць кампенсацыю ў 2007 годзе, гадаць не будзем.

*Аляксандр ДЗЕРГАЧОЎ.*

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-19.*

## Гандлёва-прамысловая палата

Існуе яна, як відаць, нават у Амерыцы. Мэта аёўскай - развіццё, адраджэнне бізнесу штата. Гэта таксама беспрыбытковая няўрадавая арганізацыя. Сам бізнес яе арганізаваў, сам жа і ўтрымлівае. Створаны савет дырэктараў.

Горад грошы на ўтрыманне палаты не дае. Хаця ад пачатаку і быў уціск. Адпаведна палата (Chambers of Commerse) праводзіць сваю жорсткую лінію, а не выконвае пажаданні і просьбы гарадскіх уладаў.

**Джэфры Левін** - адзін з кіраўнікоў, курыруе інтэрнацыянальнае развіццё. У 1991-95 дапамагаў у Балгарыі, Румыніі арганізоўваць бізнес. І цяпер займаецца пошукам новых партнёраў, пашырае кола краін, з якімі варта супрацоўнічаць.

Таксама тут дапамагаюць ствараюць поле для сустрэч і кантактаў.

- Людзі найчасцей не могуць сустрэцца напрамую, таму я і маю работу,- гаворыць Джэфры.

Свініна - асноўны від сельскагаспадарчай прадукцыі штата. Таму і партнёраў падбіраюць адпаведных - Беларусь, здаецца, мела б шанцы на супрацоўніцтва. Праўда, ёсць па крайняй меры адно істотнае адрозненне нашых і іхніх сельгасвытворцаў. Засталося загадкаю, што мясцовыя фермеры робяць з салам, вантробамі ды капытамі - за тры тыдні гэтых неад'емных свіных атрыбутаў ўбачыць не давялося ні на адным стале ці магазінным прылаўку.

У Палаце арганізуюць паскораны курс навучання для кампаній, што хочуць мець справу з замежнымі партнёрамі (каб не дапускалі памылак, зменшылася рызыка - менавіта таму амерыканскія кампаніі не надта прагнуць мець справы з намі).

Дарэчы, мясцовыя прадпрымальнікі найчасцей не вераць у тое, што дзяржслужачы можа даць граматную і непрадузятую параду. Логіка такая: каб быў разумным, то меў бы свой бізнес, а не сядзеў у клерках. Таму палата і з'яўляецца недзяржаўнай структурай.

Так што калі хто зацікавіцца стварэннем сумеснага з аёўцамі бізнесу, звяртайцеся ў Chambers of Commerse. Тут можна атрымаць інфармацыю пра разнастайныя кампаніі, выпускаемую прадукцыю.

Але. Любы дыскамфорт, які амерыканцы адчуюць у чужой краіне, рэзка зніжае магчымасць бізнес-кантакту. Яны аддаюць перавагу дзеянням праз трэція краіны - Германію, Швецыю, Італію. Давялося нават пачуць:

- Звычайна на новых рынках мы толькі другія. Няхай памыляюцца іншыя, а мы прыгледзімся.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 6.05 | 13.05 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | адсутн. | **86** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | адсутн. | **253,2** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | адсутн. | **78** |
| Селядзец салёны | 1 кг | адсутн. | **адсутн.** |
| Рыс | 1 кг | 23 | **28,5** |
| Цукар | 1 кг | 29 | **29** |
| Грэчка | 1 кг | 28,5 | **30** |
| Алей | 1 л | 60 | **60** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 23,9 | **24,3** |
| Маянэз | 250 г | 15 | **20** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 68 | **70** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 23 | **22** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 25 | **25** |
| Лімоны | 1кг | 60,2 | **60,2** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 28 | **28** |
| Масла | 1 кг | 75 | **75** |
| Тварог | 1 кг | 25 | **25** |
| Малако | 1 л | 8 | **9** |
| Бульба | вядро | 70 | **75** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 30 | **30** |

## Камароўка



На Камароўцы ў Мінску у выхадныя цэны на свіныя ўнутранасці былі наступнымі (руб. за кг):

Сэрца - 45000
Лёгкае - 40000
Ныркі - 60000
Печань - 85000
Селязёнка - 45000

*Ігар КІЦІКАЎ.*

15 МАЯ – СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ СЯМ'І

# Калі зменімся мы — пераменіцца свет

***СМАРГОНЬ. "РГ" паведамляла аб стварэнні тут асацыяцыі шматдзетных маці. Не станем пераконваць зняверыўшыхся ў тым, што краіна такая, якія мы самі ў сэнсе культуры, адукацыі, прафесійнасці, працаздольнасці, добрасумленнасці і г. д. Лепш звернемся да тых, хто жыве надзеяй, хто верыць у лепшае і спадзяецца толькі на сябе: на сваю сям'ю, свайго мужа, сваіх дзяцей. Нямногім з маіх субяседніц сёння ёсць на каго разлічваць.***

**Ларыса Растова**, старшыня савета шматдзетных сем'яў, маці пяцёх дзяцей (трое школьнага ўзросту):

- Савет наш існуе з 1991 года, ад пачатку ён падпарадкоўваўся аддзяленню Дзіцячага фонду. З таго часу і па сённяшні дзень я працую на грамадскіх пачатках, ад сваёй дзейнасці маю тое, што і астатнія шматдзетныя сем'і: калі-нікалі гуманітарную дапамогу і магчымасць напомніць іншы раз розным інстанцыям аб тым, што мы, шматдзетныя, яшчэ ёсць, і нас нават пабольшала, бо з нядаўняга часу ў разрад шматдзетных трапілі і сем'і, дзе выхоўваюцца трое непаўналетніх дзетак. Дзяржава заклапочаная станам спраў у шматдзетных сем'ях, на жаль, гэты клопат на месцах не знаходзіць патрэбнага ўвасаблення і падтрымкі. Само жыццё падштурхнула нас да стварэння самастойнай арганізацыі, каб мець магчымасць без пасярэднікаў вырашаць многія пытанні, быць больш самастойнымі ва ўзаемаадносінах з іншымі фондамі і асацыяцыямі, мець больш магчымасцяў у арганізацыі дапамогі, адпачынку, аздараўлення нашых дзетак. Бо ў дзяржаўных структур такія магчымасці сёння вельмі абмежаваныя, а калі і з'яўляюцца, то часта выкарыстоўваюцца не па прызначэнні. Ніхто лепш, чым мы самі, не паклапоціцца аб нашых праблемах.

**Тэрэза Гіль**, маці пяцёх дзяцей (старэйшая **Марына** 1984 года нараджэння, самая меншая **Надзейка** - 1990, сыны **Дзіма, Міша і Пеця**):

- Нам пашчасціла, што ў нашым жыцці сустрэўся цудоўны і чулы чалавек - **Леанід Каратай**, начальнік сельгастэхнікі, дзе працуе вадзіцелем і зваршчыкам мой муж **Сяргей**. Наша сям'я сёння мае свой добраўпарадкаваны дом (былы будынак дзіцячага садка сельгастэхнікі). Дапамагла тут і Ларыса Растова, калі спатрэбіўся дазвол ад раённых улад на перадачу нам гэтага будынка. Леанід Канстанцінавіч дапамог нам у набыцці старога грузавога аўтамабіля. Сёння гэтая машина - наша карміцелька: у нас вялікая гаспадарка і трэба шмат нарыхтаваць кармоў, прывезці іх. Дзеці нашы працавітыя, па гаспадарцы і ў агародзе, і ў садзе мне дапамагаюць, ды і са школы скаргаў у іх адрас ніколі не было.

**Наталля Лебедзь**, маці пяцёх дзяцей:

- Старэйшая **Анечка** толькі пайшла ў школу (сын **Саша** на два гады за яе меншы), калі ў нас нарадзілася тройня - тры дзяўчынкі. Сёння ім ужо па дзесяць, а мы так і жывем у сваёй трохпакаёвай кватэры. Некалі спадзяваліся, што атрымаем большую, чакалі, верылі, асабліва не назалялі начальству сваімі праблемамі, але годы прайшлі, а сёння хто нам што дарма дасць? Муж служыць прапаршчыкам у воінскай часці, я вымушаная падзарабляць, каб мець нейкі прыбытак у сям'і - прыбіраю ў памяшканні народнага суда. Маем агарод, сотак з 6 ("нелегальны", тут у нас многія выкарыстоўваюць пустуючыя зямельныя участкі), затое агародніна амаль дармавая. Старэйшая дачка паспяхова заканчвае 11 клас, хоча вучыцца далей, але на гэта патрэбныя грошы, ці зможам мы яе забяспечыць?

**Людміла Сяргеева**, маці пяцёх дзяцей (**Аляксей** - 16 год, **Вольга** - 13, **Леначка** - 4, дзяўчынкі-двайняшкі 1,5 года).

- Мы з мужам урачы. Лічыцца, што стаўкі ўрача хопіць, каб пракарміць і забяспечыць вялікую сям'ю. Мне нават у бясплатным харчаванні аднаму дзіцяці адмовілі ў чацвертай школе, дзе вучацца старэйшыя, маўляў, фондаў не хапіла. Справа нават не ў грашах, а ў стаўленні, у абыякавасці да чужых турбот. Таму і разлічваем мы сёння толькі на сябе ды на сваіх бацькоў, якія дапамагаюць пабудаваць большую кватэру. Добра, што ёсць дача, ёсць працавітыя дзеці, ёсць работа і здароўе. Хацелася б хоць кроплю разумення і спагады з боку тых, хто працуе з дзецьмі, хто працуе для дзяцей.

Давялося размаўляць і з іншымі жанчынамі. У **Тэрэзы Семак**, напрыклад, сямёра дзяцей: шэсць дачок і маленькі сын **Сашачка**. У **Вікторыі Арцюкевіч** - шасцёра. Ларыса Растова гаворыць, што большасць шматдзетных сем'яў - людзі прыстойныя, працавітыя, якія і ў наш складаны час застаюцца добрымі. Відаць, дапамагаюць ім у гэтым дзеці, як і перамагаць цяжкасці. Шкада, што амаль усе яны разлічваюць толькі на свае сілы, толькі на сябе.

*Ала СТРАШЫНСКАЯ.*

## Лепшы фельчар

ВІЛЕЙКА. У тэрытарыяльна-медыцынскім аб'яднанні прайшлі раённыя спаборніцтвы "Лепшы па прафесіі" сярод фельчараў. Перамагла работнік "хуткай дапамогі" **Таццяна Субач.**

А настаўнікі СШ №3 падтрымалі рэспубліканскую акцыю - за свае прафсаюзныя грошы набылі падарункі дзецям-інвалідам, якія з-за хваробы не могуць наведваць навучальныя ўстановы.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Бабулі адваявалі вёску

ВІЛЕЙКА. З карты раёна ледзь не знікла невялікая вёсачка Жукаўка Хаценчыцкага сельсавета.

Нехта запаліў траву, і агонь шчыльным колам абступіў вёску. На вайну з ім выйшлі нават нямоглыя бабулі. І перамаглі.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Новы від грамадскага транспарту

ВІЛЕЙКА. Знайшоўся згоншчык КрАЗа, пра якога "РГ" пісала нядаўна. Як высветлілася, ён з жонкай збіраўся ў вёску, але адстаў ад аўтобуса. Вось тут і прыйшла светлая думка выкарыстаць паслугі жалезнага гіганта.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

## Слова развітання

Яшчэ адна нітачка абарвалася. Нітачка, якая звязвала сённяшні дзень з учарашнім, давала магчымасць зазірнуць у глыбіню часу, каб мы маглі ўзяць адтуль усё найлепшае і панесці яго на служэнне свайму народу і Бацькаўшчыне.

Памерла **Вера Андрэеўна Тарашкевіч-Ніжанкоўская**. Равесніца веку, жанчына-легенда. За свой доўгі век каго яна толькі ні сустракала на сваім жыццёвым шляху. Нарадзілася ў сям'і выдатнага вучонага, гісторыка, краязнаўцы **Андрэя Сніткі**, была пляменніцай першага рэдактара беларускай газеты "Наша Ніва" **Аляксандра Уласава**, а ў далёкія 20-я стала жонкай аўтара першай беларускай граматыкі і легендарнага лідэра Грамады **Браніслава Тарашкевіча**. Захаваўшы да апошніх дзён свайго жыцця ясны і светлы розум, з якой радасцю яна ўспамінала пра перажытае, згадвала такія цікавыя дэталі, што заставалася толькі дзякаваць богу за тое, што ён захаваў для нашчадкаў такога чалавека.

Заўсёды ласкавая і спагадлівая, яна старалася ва ўсім дапамагчы, падтрымаць любога, каму гэта было патрэбна. Перажыла ў жыцці шмат гора - вымушанае расстанне з каханым чалавекам, страта адзінага сына, які загінуў у час вайны, загадкавая смерць другога мужа. Гэта не зламала яе, а яшчэ больш загартавала ў веры, перакананнях. Можна толькі здагадвацца, як балюча і крыўдна было ў яе на душы ад таго, што нават на 100-годдзе з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча не быў адчынены музей яго памяці. Праўда, можна знайсці апраўданне, спаслацца на аб'ектыўныя прычыны і эканамічныя цяжкасці, але ці ў гэтым самая галоўная прычына? Не! Прычына ў нашай абыякавасці, раўнадушшы, у нашым нігілістычным падыходзе да свайго мінулага. Вера Андрэеўна ўсё гэта цудоўна разумела, яна хацела, каб беларусы ўрэшце сталі беларусамі на сваёй зямлі, каб яны не пагарджалі "святым сваім мінулым", а ганарыліся ім і паважалі яго.

Апошнія гады свайго жыцця яна правяла разам са сваёй дачкой у маленькім і старэнькім доме, дзе ім, напэўна, не заўсёды было цёпла і ўтульна, але дзе іх заўсёды саграvала любоў да сваёй Беларусі. Пра што думала Вера Андрэеўна ў апошнія гадзіны свайго жыцця? Пра гэта мы ніколі не будзем ведаць і гэта не самае важнае. Важнае іншае, каб мы назаўсёды захавалі памяць пра гэтага выдатнага чалавека і сапраўднага патрыёта.

Не трэба гучных і пустых слоў, давайце зробім усё для таго, каб музей Б. Тарашкевіча стаў рэальнасцю, і тады іх душы назаўсёды пасяляцца ў ім, і ад гэтага стане лепш на гэтай зямлі і нам.

Апошняя нітачка парвалася. Нітачка, якая звязвала нас са слаўным нашым мінулым, і ад гэтага робіцца невыносна цяжка і балюча.

Бывайце, Вера Андрэеўна, і даруйце нам усе нашы грахі і памылкі перад Вамі. Памяць пра Вас назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, для каго любоў да сваёй Радзімы і яе мовы не проста пусты гук, а сэнс іхняга жыцця.

**Барыс Бароўскі,**
**Віктар Бярнацкі,**
**Міхась Казлоўскі,**
**Святаслаў Палівода,**
**Міхась Чыкалаў,**
**Алесь Манцэвіч,**
**Васіль Лазоўскі,**
**Кастусь Харашэвіч,**
**Мікола Капыловіч.**

